# Самапомач Самаромах

Беларуская Коопэратыўна-Гаспадарчая Часопісь

| Год III. | Вільня, Люты 1934 г. | № 2 |
|---|---|---|

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, калькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*
ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі стварапаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

Джордж РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ №2 (19).



# Абвесткі судовых ухвалаў.

**З прычыны абмежаваньня польскімі законамі правоў беларускай мовы, зьмяшчаем урадавыя абвесткі ў польскай мове.**

### УПІСАНЬНЕ Ў РЭЕСТР КООПЭРАТЫВАЎ.

**Do Rejestru Spółdzielni Sądu Okręgowego w Wilnie wciągnięto następujący wpis pierwotny.**

916.I. Firma: „Biełaruski Spažywiecki Kooperatyŭ RAJNICA z adkaznaściu pajami ŭ Wilni", po polsku „Białoruska Spółdzielnia Spożywców RAJNICA z odpowiedzialnością udziałami w Wilnie". Siedziba w Wilnie ul. Królewska 3—8. Odpowiedzialność członków za zobowiązania spółdzielni zadeklarowanemi udziałami. Celem spółdzielni jest zaspokajanie wspólnemi siłami materjalnych i kulturalnych potrzeb swoich członków, a w działalności swej dążyć będzie do zorganizowania produkcji i wymiany w myśl interesów spożywców dla osiągnięcia czego spółdzielnia organizuje i prowadzi wszelkiego rodzaju zakłady gospodarcze oraz podejmuje działalność społeczno kulturalną w szczególności zaś: kupuje hurtowo, przerabia oraz wytwarza artykuły spożycia i przedmioty użytku domowego oraz gospodarczego i odsprzedaje je detalicznie swoim członkom, przyjmuje wkłady oszczędnościowe od członków i prowadzi wszelkiego rodzaju działalność kulturalno oświatową i społeczną. Udział wynosi 10 złotych płatnych: 5 złotych przy przystąpieniu, pozostała zaś suma winna być wpłacona nie później jak przed upływem jednego roku. — Na członków zarządu powołano: zam. w Wilnie Mikołaja Mancewicza przy ul. Filareckiej 22—1, Józefa Najdziuka przy ul. Bonifraterskiej 4—6 i Władysława Kozłowskiego przy ul. Kalwaryjskiej 16—2. Czas trwania spółdzielni nieograniczony. Pismo przeznaczone do ogłoszeń „Samapomacz" w Wilnie. Rok obrachunkowy kalendarzowy. Członków zarządu 3, oświadczenie woli w imieniu spółdzielni podpisują dwaj członkowie zarządu pod stemplem firmowym. Zawierane przez zarząd kontrakty w sprawach kupna zastawu lub najmu nieruchomości wymagają zatwierdzenia przez Radę Nadzorczą, postanowienia o sprzedaży nieruchomości należą do kompetencji Walnego Zgromadzenia. Przepisy o likwidacji są zgodne z odnośnemi przepisami ustawy o spółdzielniach z dnia 29.X.1920 r.


# „Самапомач"

Часопісь выходзіць раз у месяц.

**Падпісная плата аднаго экзэмпляра каштуе:**

На год . . . . . . . 3.— зл.
На паўгода . . . . . 1.75 „
На 3 месяцы . . . . . 1.20 „

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана асобнага нумару 40 грашоў.

Цана абвестак паводле ўмовы.

Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы" (камплект), плацяць за экзэмпляр толькі **1.20** зл. за 10 экз. **12 зл.**

Пакуль хопіць запас, да кожнага камплекту (дзесятка) будзе бясплатна далучаны адзін **Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г.**, а за даплатай 1 зл. **і гадавік „Самапомачы" за 1933 г**

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае конто інж. Клімовіча у П.К О. Nr. 180 485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja „Samapomač", Vilnia, Połackaja vul. 4—10
(Wilno, Połocka 4—10).

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 11-ай гадз. дня.

Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŪNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Luty 1934 h. | Nr. 2 (19). |
|---|---|---|

# *Яшчэ адзін крок наперад!*

Павольна але няўтомна йдзём наперад, расьцём, крапчэем. Разам з гэтым аднак растуць і нашы патрэбы. І гэта зусім натуральна, бо што выстарчала дзіцяці, ня можа выстарчыць чалавеку даросламу: што выстарчала ў пару пачаткавага прабуджэньня і зацікаўленьня гаспадарчым жыцьцём, таго station таго стаючы за мала, каб прабуджанае жыцьцё абхопліваць падтрымліваць ды надаваць яму тэмпо і кірунак.

Гаворачы конкрэтна, ад пэўнага часу, калі беларуская арганізаваная коопэратыўна-гаспадарчая праца выйшла ўжо з рамак тэорэтычных разважаньняў і сталася масавай, — дагэтуляшнія рамкі „Самапомачы" сталіся вузкімі. Патрэба іхнага пашырэньня сталася пытаньнем жыцьця і сьмерці. Гэта вось думка, перайшоўшая ў фармальнае дамаганьне з боку нашых Паважаных чытачоў і працаўнікоў на вёсцы і прымушае нас публічна глянуць праўдзе ў вочы і сказаць: так, **трэба неадкладна пашырыць рамкі „Самапомачы"!**

Але гэта справа ўжо ня самае толькі Рэдакцыйнае Калегіі, каторая і так працуе над свае сілы,—але і ўсіх чытачоў і прыхільнікаў, якія свае дамаганьні павінны падмацаваць чынам паводле засады: **які чытач, такая і часопісь!**

Конкрэтна кажачы, няма ніякай падставы больш абцяжываць людзей і без таго ахвярных і спосабы дзеля пашырэньня мусяць выкрасіць з сябе тыя-ж людзі, для якіх часопісь празначана. Іншых спосабаў на гэта няма. — Гэта ня знача аднак ані крыху, каб нехта мусіў дарма складаць грошы на справу. Не! Гэта значыць толькі, што кожны дагэтуляшні падпісчык „Самапомачы" мусіць прыняць на сябе моральны абавязак **неадладна** здабыць хоць аднаго падпісчыка новага, а галоўнае —

**прыняць дзейнае ўчасьце ў зьбіраньні падпісчыкаў на камплекты „Самапомачы"** (па 10 экзэпляраў).—Чым больш будзе падпісчыкаў, тым танней абойдзецца сабекошт выданьня аднаго экзэмпляра часопісі. І гэта нам дасьць магчымасьць ужо

**ад 1-га красавіка с. г.**

павялічыць дагэтуляшні фармат у паўтара раза (да 12 бачынаў, замест дагэтуляшніх 8-мёх), а ў разе дружнай працы ўсіх,

**ад 1 кастрычніка с. г.**

перавясьці „Самапомач" з месячнага року (сроку) выдаваньня на **двутыднёвы.**

За гэткі нізкі кошт можна будзе пашырыць наша выдавецтва толькі дзякуючы бязінтэрэсоўнай працы і на далей нашых Паважаных с у п р а ц о ў н і к а ў, ахвярнасьць каторых дае нам права зьвярнуцца да ўсіх Беларусоў, што апынуліся на Захад ад рыскае мяжы, з гэтым клічам:

Грамадзяне! Калі штось мае сягоньня прад сабой сваю будучыню, дык у першую чаргу гэта ёсьць **наша собскае гаспадарчае жыцьцё!** Гэтай думцы служыць „Самапомач" ад самага ўачатку і хоча служыць ёй далей. Памажэце ёй! Не паўтарайце абмылак мінуўшчыны і не кажэце, што „перш мусім узмацавацца гаспадарча, а пасьля брацца за навуку." Гэтак не кажэце, бо гэта самаабман: **перш найперш мусіць ісьці навука (ў нас—часопісь), а за ёй дабрабыт прыйдзе сам!** Ніколі наадварот! Бо і найбольшая прычына адсталасьці нашага сельска гаспадарчага жыцьця ў тым якраз, што яго ня ўмела дагэтуль спрэгчы з сабой працу сілаў інтэлігентных, як гэта зрабіў промысел, або гандаль.

Дык не паўтараймо абмылак і шчыльна лучымася праз „Самапомач" у адну працоўную сям'ю. Супольна будуйма духа самапомачы ў нашым Народзе, а гэта напэўна вывядзе яго на цьвярды шлях трывалкага дабрабыту і поўнай незалежнасьці!

Кошты падпіскі на „Самапомач" так нізкія, што даступны і найбяднейшаму: 3 зл. ў год за адзін экзэмпляр, а хто на адзін супольны адрэс выпісвае ня менш 10 экзэмпляраў, той за экзэпляр у год плаціць толькі 1 зл. 20 гр. (за 10 экз.—12 зл.).

Хай ня будзе ніводнай хаты бяз собскай „Самапомачы"!
Гэта хай будзе экзамінам нашай грамадзкай сьпеласьці!

Рэдакцыя
**„САМАПОМАЧЫ."**

# Našto nam patrebny Biełaruski Sajuz Kooperatyvaŭ?

Samatuham paŭstaje biełaruskaja kooperacyja ŭ paru niačuvanaje halečy. Ale ŭ hetym i istota kooperacyi, jakaja łučyć nie bahatych, ale patrabujučych i nia dziela zysku, a dziela zdavaleńnia patrebaŭ. Prymieta biełaruskaści hetych kooperatyvaŭ nie zaŭsiady vyražana słovam. Ale jakimi-ž, jak nie biełaruskimi, mohuć być kooperatyvy, siabrami jakich nia mienš, jak u 90 prac. źjaŭlajucca biełaruskija sialanie i pry tym — sialanie nacyjanalna śviedamyja? — Tolki biełaruskimi!

Istota kooperacyi vymahaje, kab hetyja kooperatyvy nie astavalisia raspylenymi, ale kab łučylisia ŭ sajuzy. I sajuzy takija — navat nie adzin — na našych ziemlach užo jość, tolki jany siahońnia nie biełaruskija. Nie adnamu moža zdasca: našto tady dumać ab sajuzie biełaruskim? —Tak havorać tyja, dla jakich biełaruskaja kooperacyja źjaŭlajecca tolki pieraškodaju ŭ ich destrukcyjnaj pracy, abo tyja, što ŭžo pajšli ci jašče źbirajucca jšci na słužbu ŭ kooperacyju čužuju, polskuju.

Heta adnak nie raźviazka pytańnia, bo isnujučyja sajuzy, jak čužyja, nie adpaviadajuć ni intaresam našych kooperatyvaŭ, ni intaresam sarhanizavanych u ich siabroŭ. I adno i druhoje, a hałoŭnaje — planavańnie dalšaj kooperatyŭnaj raboty na biełaruskich ziemlach moža pravieści tolki Biełaruski Sajuz Kooperatyvaŭ.

Patreba hetkaha Sajuzu jasnaja. Ale ŭznoŭ čuvacca hałasy: „Tak, hetki Sajuz patrebny! Zakładajcie i my da jaho dałučymsia!" — Vieryć treba, što hety adkaz płyvie z ščyraj dušy. Ale chto-ž pavinien hety Sajuz tvaryć, arhanizavać, kali kožny tolki čakaje na hatovaje i abiacaje tolki... „dałučycca"? —Da arhanizacyi takoha Sajuzu pavinny prystupić *usie* biełaruskija kooperatyvy i za raz, bo čym bolš ich budzie na pačatku, tym lahčej pojdzie sprava arhanizacyi. Patreba heta vypłyvaje z nastupnych pryčyn:

Biełaruskuju, jak i ŭsiakuju inšuju kooperacyju, nia možna ŭvažać źjaviščam vykłučna haspadarčaha charaktaru. Zadańniem kooperatyŭnaha ruchu jość *uzhadavańnie* novaha hramadzianina (čałavieka), jaki ŭ svaim žyćci kiravaŭsia-b pryncypam braterstva i tvorčaha supracoŭnictva, a nia nienaviści i konkurencyi. Pieraŭzhadoŭvajučy-ž hramadzianstva kooperacyja spryčyniajecca i da tvareńnia narodnaje kultury.

U hetaj spravie kooperacyja pavinna być nia tolki pamocnikam dla našych kulturnych arhanizacyj, ale jana pavinna dać im i nieabchodnyja srodki. — A ci-ž moža zrabić heta biełaruskaja kooperacyja padparadkavanaja napr. polskim Sajuzam, zadačaju jakich źjaŭlajecca prymacavańnie haspadarčaje našych ziamiel da Polščy i pašyreńnie na našych ziemlach kultury nia rodnaj-biełaruskaj, a čužoj polskaj? — Nie! Heta zadańnie zmoža vykanać tolki kooperacyja niezaležnaja, kooperacyja volnaja ad čužych upłyvaŭ i „apieki". Užo heta adno śviedčyć ab tym, u jakija Sajuzy pavinny jšci biełaruskija kooperatyvy.

Padojdziem zaraz da spravy z inšaha, čysta haspadarčaha punktu hledžańnia. I

# Kooperacyja i Narodnyja Universytety.

Kooperacyja nie kančajecca na kooperatyvie. Kooperacyja heta nia tolki krama, dzie možna taniej i lepšy tavar kupić ci lepš pradać svaje pradukty. Kooperacyja heta adna z formaŭ supracoŭnictva ludziej, heta ŭstanova, dzie ludzi vučacca hramadzkaści, dzie majuć jarkija i chutkija dokazy, jak supolna možna lohka zmahacca sa svaimi złybiedami, niadolaju, halitoju i što najvažniej—pieramahać biadu. Kooperacyja heta škoła, dzie ŭzhadoŭvajecca hramadzianin budučyni.

Usieńka heta praŭdy viadomyja, jakich śviadomym kooperataram paŭtarać nia treba. Dośled i praktyka žyćciovaja kooperacyi daŭno heta paćvierdzili. Kali niechta chacieŭ-by abmiažavać ideju kooperacyi vykłučna da adnaje tolki pałohki ŭ kupli-pradažy, toj zahadzia padrezaŭ-by najvažniejšy jejny kareń, praz jaki jana kormicca.

Značycca, u kooperacyi treba addzialić mety blizkija ad dalejšych, treba adroźnić formu ad źmiestu, jaki chavajecca pad prostaju vopratkaju najmienšaje viaskovaje kramki. Kali ŭjavim sabie na mament henyja dźvie starany kooperacyi, pačynajem bačyć supolny hrunt, na't, skazaŭ-by, stułnaje złučvo pamiž kooperacyjaj i **narodnymi ŭniversytetami**. Kooperacyja i narodny universytet imknucca da ŭzhadavańnia čałavieka. Płošča dziejańnia na pieršy pahlad u ich dalokaja. Narodny ŭniversytet nia rupicca, nia cikuje, možna było-b dumać, mamentami ekanamičnymi, adnak na nivie, padrychtavanaj narodnym universytetam, bujna ćvicie potym kooperacyja. Žyćcio maje na heta ŭžo šmat prykładaŭ, chaj tolki voźmiem Daniju, Finlandyju, Švecyju i inš. Dyk, dumaju, budzie karysnym paznajomicca, prynamsia ŭ šyrokim narysie, z dumkaju narodnych universytetaŭ, kab nahladna ŭbačyć tyja karyści dziela kooperacyi, jakija z ich vypłyvajuć.

Baćkaŭščyna narodnych universytetaŭ u Danii i stułna złučana z proźviščam ichnaha zakładčyka Grundtvig'a. Nicolai-Frederik-Severin **Grundtvig** žyŭ ad 1783 da 1872 h., byŭ z prafesii duchoŭnikam-pastaram. Vialiki i ščyry demokrat u sapraŭdnym sensie hetaha słova, krytyčna zahladaŭsia na tahačasnuju formu

tut musim ścvierdzić, što aprača tolki palohak padatkavych, jakija daje kooperatyvam naležańnie da revizyjnych sajuzaŭ, nijakich inšych karyściaŭ ad polskich sajuzaŭ našy kooperatyvy mieć nia mohuć. Kali pryhledzicca bližej da adnosinaŭ Polskich Kooperatyŭnych Centralaŭ da miascovych kooperatyŭnych arhanizacyjaŭ, dyk jarka kiniecca ŭ vočy nie sapraŭdnaja apieka nad pazahanianymi ŭ Sajuzy kooperatyvami, a tendencyi **razbudovy centralaŭ** za rachunak miascovych arhanizacyjaŭ i padparadkavańnia ichnich intaresaŭ intaresam henych-ža Centralaŭ. To-ž koštam bielaruskich kooperatyvaŭ budujucca ŭ centry Polšcy kooperatyŭnyja fabryki, darahija vyraby katorych tyja-ž polskija Sajuzy zmušajuć kuplać našyja kooperatyvy bielaruskija. Tymža koštam i tyja-ž Sajuzy budujuć karabli i aeraplany(!), jakija, praŭda, prynosiać rozhałas polskamu imiu, ale... čamu za heta płacić maje bielaruskaja kooperatyva? — Tamu jakraz, što jana bielaruskaja a naležyć da čužoha jej, niebielaruskaha Sajuzu!..

Voźmiem Sajuz Polskich Spažyvieckich Kooperatyvaŭ, h. zv. „Społem!". Pavodle jahonaha statutu kožny kooperatyŭ uvachodziačy ŭ Sajuz pavinien padpisacca na stolki pajoŭ, kolki maje siabroŭ. Paj vynosić 15 załatovak. Praŭda, Sajuz nie vymahaje, kab hetyja hrošy byli adrazu ŭniesieny ŭ kasu Sajuzu, i zhadžajecca na ŭniasieńnie pry ŭstupleńni tolki pa 2 załatoŭki ad siabry. Ale ŭsio-ž tym ci inšym sposabam, u kancy kancoŭ, spłacić Sajuzu zapisanyja pai kooperatyŭ pavinien! Kali pryniać pad uvahu, što ŭ našych viaskovych kooperatyvach paj, blizu nikoli nie pieravyžšaje 10 załatovak ad siabry, dyk vyjdzie, što kooperatyŭ pavinien uniaści ŭ Sajuz nia tolki ŭvieś svoj pajavy kapitał, ale musić jašče zdabyć adkulści i ŭniaści ŭ Sajuz sumu roŭnuju pałovie hetaha paju, a sam, astaŭšysia biez hrašovych srodkaŭ, karystacca tolki darahimi tavarnymi kredytami ŭ składach „Społemu" (za jakija pavinien jašče płacić i pracenty). Dy i to karystańnie hetym kredytam budzie zaležyć vyklučna ad łaski miascovych addziełaŭ „Społemu": nie padabajecca dyrektaru addziełu ci to kiraŭnictva kooperatyvu, ci ahulny napramak jahonaje pracy (a bielaruski charaktar pracy napeŭna nie padabajecca!) — i kredyt začynieny. A što moža rabić kooperatyŭ pazbaŭleny kapitałaŭ i kredytaŭ, — chiba nia treba kazać.

Hetak stałasia ŭ apošnija času ŭ Vilni z z adnym kooperatyvam, jaki čamuści ličyli bielaruskim. Voś-ža hety kooperatyŭ, majučy ŭ „Społemie" paj pieravyžšajučy ŭłasny pajavy kapitał blizka što na tysiaču załatovak, zmušany byŭ pracavać vyklučna na kredytach u miascovym addziele „Społemu". U źviazku z začynieńniem ad 1 studnia s. h. kredytaŭ, kooperatyŭ apynuŭsia ŭ tak ciažkim pałažeńni, što na paradku dnia svajho hadavoha schodu pastaviŭ pytańnie ab likvidacyi. Treba pry hetym dadać, što kooperatyŭ nia vioŭ nijakaj kulturnaj pracy, jakaja mahła-b nie padabacca Sajuzu, i što kiraŭnictva kooperatyvu nie mahło być abvinavačana u „nielojalnaści". — A što było-b, kali b kooperatyŭ pačaŭ vyjaŭlać svaju bielaruskaść, — ab hetym chiba nia treba i kazać. Voś jaskravy prykład pałažeńnia kooperatyvaŭ naležačych da „Społemu".

---

aśviety ŭ škołach, jak daloka stajačuju ad šyrokich słajoŭ narodnych, ad huščy sialanskaje. U škole jon bačyŭ miesca, dzie davali bolšuju ci mienšuju kolkaść viedy, dzie adnak mała była zakranutaja duša čałavieka. Najvialikšuju niebiaśpieku tahačasnaje — my mahli-b skazać, što nia tolki tahačasnaje, ale i siańniašniaje — škoły, bačyŭ jon u asobnym jejnym arystokratyźmie. Škoła taja zabirała adzinki z masaŭ sialanska-rabotnickich, vyklikała imknieńnie ŭciačy sa svajho asiarodzišča, vučyła hladzieć na ŭsieńkaje svajo, chatniaje, z pahardaju, jak na niešta „nižejšaje", mała „kulturnaje". Z hetych adjomnych adnosinaŭ vypłyvała pozytyŭnaja ideja **novaje škoły**.

U žyćci kožnaha čałavieka Grundtvig bačyŭ niekalki peryjadaŭ, z jakich adzin pačynajecca bolš-mienš ad 17—18 hadoŭ i tryvaje niekalki hadoŭ. Heta toj viek, jaki viedajem z sobskich pieražyvańniaŭ, viek latucieńniaŭ i mryjaŭ idealnych, viek tuhi za niečym dobrym, šlachotnym, viek, kali šukajem svajho žyćciovaha šlachu. Peryjad heny nia vykarystany, biez apieki, nastroi i imknieńni nia ŭjaŭlenyja prajaŭlajucca na vioscy ŭ vodcy, u hulniach z bojkami. Heta viek, kali paśla ciažkoha pracoŭnaha dnia dziaŭčyna lacić na viečarynutanculku, kab pratancavaŭšy da ranicy iznoŭ uvieś dzień niaŭtomna pracavać.

Tutaka vialikaja zasługa Grundtvig'a, jaki amal nia 100 hadoŭ tamu nazad, umieŭ spaścierahčy vialikija mahčymaści ŭzhadavańnia moładzi, karystajučysia z asabliva spahadnych psychičnych umovaŭ henaje pary daśpiavańnia dzieła taho, kab pryniać u siabie novyja idei, zachapicca imi dy tak hłybaka, što henyja idei pakidajuć tryvałyja ślady na celaje žyćcio.

Jakija-ž heta idei maje vyklikać Narodny Universytet u svaich słuchačoŭ? Heta my bačym z metaŭ Nar. Universytetu: uviaści słuchačoŭ u kantakt z kulturaju, šlacham histaryčna-filozofičnych lekcyjaŭ, uviaści ŭ orhaničnuju suviaź z narodam, z jahonym duchovym žyćciom, jon vučyć bačyć čałavieka ŭ stulnaj suviazi i na ŭłońni hramady-narodu, jon vyklikaje pytańni i daje adnačasna adkaz na rolu i zadačy adzinki, jon vučyć śviadomych adnosinaŭ da ŭsich žyćciovych prajavaŭ, značycca jon uzhadoŭvaje śviadomuju adzinku-hramadzianina, jaki pačynaje bačyć metu svajho i celaha narodu žyćcia.

My nia pryvykli da škoły, jakaja nia ru-

Voźmiem Sajuz Małačarskich Tavarystvaŭ. I tut možna zaŭvažyć tuju samuju tendencyju razbudovy svajej Centrali za rachunak miascovych małačarniaŭ. Sajuz płacić svaim siabrom za ich pradukcyju ceny zaŭsiody nižejšyja ad cenaŭ, jakija možna atrymać na pryvatnym rynku i hetym vyklikaŭ nieachvotu zdavać u Sajuz vypradukavanaje masła. Nia majučy nijakich mahčymaściaŭ prymusić małačarni addavać jamu masła z jaŭnaju strataju, Sajuz, jak my daviedalisia, na adnej tolki što adbytaj u Vilni konferencyi (Zw. Spółdzielni Polskich, 19.II. s. h.) pravioŭ rezalucyju abaviazvajučuju małačarni, pad pahrozaju vyklučeńnia z Reviz. Sajuzu, zdavać usiu pradukcyju masła ŭ Małač. Sajuz. I tut taksama jaŭna vypływaje tendencyja Sajuzu pieralić u svaju kasu ŭsie tyja zarabotki, jakija mahła-b mieć małačarnia.

Jak adnamu, tak i druhomu Sajuzu nia chodzić ab toje, kab uzmacoŭvalisia miascovyja kooperatyŭnyja arhanizacyi. Im važna tolki, kab pracaju hetych arhanizacyjaŭ uzmacavać svaje Centrali, jakija-b tady tolki pakazali, što jany sapraŭdy chočać i mohuć. Kali heta moža być karysnym dla kooperacyi polskaje, dyk ni ŭ jakim vypadku nia moža dać nijakich karyściaŭ kooperacyi biełaruskaj.

Paśla hetych karotkich vyjaśnieńniaŭ pakidajem našym čytačom dać adkaz na pytańnie, jaki Sajuz patrebny biełaruskaj kooperacyi.

**M. M.**



## Arhanizujem svoj Biełaruski Sajuz Kooperatyvaŭ!

Patreba svajho sajuzu kooperatyvaŭ vidavočnaja i zrazumiełaja. Musić być centr, jaki dumaŭ-by ab celaści, asabliva-ž — apiakavaŭsia-b kooperatyvami isnujučymi i planavaŭ-by zakładańnie novych. Zakładčykam hetkaha Sajuzu moža i pavinna być kožnaja biełaruskaja kooperatyva, bo być siabram tolki Sajuzu ŭžo zarhanizavanaha, hatovaha — heta mała, — treba hetki Sajuz samym-ža arhanizavać!

Pieraškody na šlachu da ździejśnieńnia hetkaha Sajuzu mohuć być, ale śviedamaja vola ŭsio pieramoža.

Na damahańnie śviedamych nacyjanalna našych kooperatyvaŭ i naahuł hramadzianstva, redakcyja „Samapomačy" ŭziała na siabie inicyjatyvu arhanizacyi Biełaruskaha Sajuzu Kooperatyvaŭ. Z peŭnych pryčyn mahčymaść zasnavańnia hetkaha Sajuzu ahraničana davoli karotkim časam. Dziela hetaha zaklikajucca ŭsie biełaruskija kooperatyvy ŭsiakich vidaŭ — spažyvieckija, kredytovyja, vytvorčyja i inš. — zaraz ža i jak najchutčej dać znać ab sabie ŭ redakcyju „Samapomačy". Hetkaje paviedamleńnie pavinna źmiaščać, vyražeńnie voli kooperatyvy być zakładčykam Sajuzu i jahonym siabrom, historyju sarhanizavańnia kooperatyvy i jaje sučasny stan.

Siabroŭstva ŭsiakaj biełaruskaj kooperatyvy ŭ Sajuzie jość abaviazkam moralnym, a dla kooperatyvaŭ nienaležačych da nijakaha Sajuzu „dzikich" — i žyćciovaj kaniešnaściu.

---

picca ab kankretnuju metu — navučyć taho ci inšaha ramiasła, dać paśviedčańnie i mahčymaść dastać słužbu ci zarablać hrošy, što škoła, jakaja choča zrabić „tolki" hramadzianina, śviadomaha siabie i svajho miesca, vyklikaje ŭ nas mižvolna niedaŭmieńnie.

„Mo' jana i dobraja škoła — heny Narodny Universytet, tolki nie dzieia nas" — skaža niechta. „Chto nia maje na chleb, nia moža mieć nijakich duchovych cikavańniaŭ... Hałodnamu treba tolki chleba, a potym jon padumaje sam ab inšych svaich patrebach"... Šmat inšych padobnych nazoŭ mahli-b my pačuć. I na pieršy pahlad zakidy henyja mahli-b nas patryvožyć. Adnak užo taja samaja praktyka žyćciovaja pakazvaje nam niešta inšaje. Sielanin zamožny, skažam pavodle novaje terminolohii — „kułak", — nia maje razhonu, achvoty da novaha, paraŭniaŭšy z „biedniakom" i „sieradniakom". I jakraz, kali sapraŭdy aśvieta moža kamu pamahčy i kali jana kamu patrebnaja, dyk voś henym najbiadniejšym, jakija nia majuć chleba. Henym „najhoršym" treba azbroicca jakmaha da zmahańnia za svajo žyćcio, za svoj kusok chleba, za svaje pravy čałaviečkija.

Najlepšy šlach da henaha „azbrajeńnia" — u ahulnaj aśviecie, forma-ž jaje najlepšaja i najpryhažejšaja realizujecca ŭ Narodnym Universytecie.

Pišu ab Nar. Universytecie, a dahetul nie skazaŭ, što heta za ŭstanova. Zaviom henuju ŭstanovu ŭniversytetam, vysokaju škołaju, dziela taho, što cikuje (daśledžvaje) jana ab spravach vialikich, važnych; narodnym-ža zaviom dziela taho, što źviartajecca da masaŭ narodnych i rupicca ab takich prablemach, jakija blizkija, rodnyja šyrokim narodnym masam. Možna skazać jašče, što Nar. Universytet heta *vysokaja* škoła dziakujučy svaim idejam, a *škoła* — ŭ siłu i pa miery nieabchodnaści. Tolki hetak razumiejučy istotu i charaktar Nar. Universytetu, nia dzivić nas, što słuchačami ŭ jom mohuć być ludzi, jakija ŭmiejuć tolki čytać i pisać, a jasna pobač hetaha majuć adčynienuju šyroka dušu na novyja idei. Tolki pry henych umovach „chamskija dzieci" mohuć pačuć ab prablemach filozofii, psycholohii, pačuć ab kultury, ujavić šlachi, jakim chadziŭ ich narod u minuŭščynie.

Pačatak universytetu ŭ Danii byŭ nadta skromny. Pieršy zasnavaŭsia ŭ Rödding u

# Kooperatyŭnyja naviny.

Novy kooperatyŭny zakon u Polščy. 20 lutaha s. h. uradavy prajekt kooperatyŭnaha zakonu razhladaŭsia ŭ skarbovaj kamisii Sojmu. Referentam prejektu byŭ pasoł Hlinski (BB). — Niezaležnaści kooperacyi mužna baraniŭ ukrainski pasoł Astap Łućkyj. Proci prajektu vystupali tak-ža: Gricmacher (všechp.), Langner (ludoviec) i Zaremba (PPS.). Rešta maŭčali. Prajekt prajšoŭ i znajdziecca na najbližejšym plenarnym pasiedžańni Sojmu.

Pasoł A. Łućkyj — staršynioj Nahladnaj Rady Koop. Centrali dla zbytu žyvioły. Pytańnie zbytu praduktaŭ ziemlarobskaj vytvorčaści ciapier badaj što najvažniejšaje. Jość dla hetaj mety roznyja kooperatyŭnyja sajuzy — u ukraincaŭ „Centrosojuz", — jakija ŭsie razam łučacca ŭ „Koop. Centrali dla zbytu žyvioły, kudy ŭvachodziać palaki, ukraincy i niemcy. Dahetul staršynioj Nahladnaj Rady hetaj Centrali byŭ praf. V. Stanievič, sučasny rektar Vilenskaha Universytetu. Na pasiedžańni Rady Centrali 17 h. m. u Varšavie staršynioj hetaj Centrali vybrany staršynia ukrainskaha „Centrosojuzu" i hałoŭny dyrektar RSUK-a pasoł A. Łućkyj. Kandydatura i vybar na hetkaje stanovišča pasła Łuckaha motyvujecca zasłuhami ukrainskaj kooperacyi ŭ arhanizacyi kooperatyŭnaha zbytu žyvioły: viedama, što niezaležnaja zach.-ukrainskaja kooperacyja patrapiła ŭ min. hady lepš u hetym kirunku pracavać ad inšaj kooperacyi ŭ Polščy i zhetul pływie pryznańnie dla jejnych zasłuhaŭ.

Jak bačym, konkretnaja praca na haspadarčym pol cenicca ŭsiudy i ŭsiudy z joj rachujucca, bo rachavacca musiać.

---

Dziela hetaha *kožnaja biełaruskaja kooperatyva pavinna zaraz-ža,* pa mahčymaści da 15-ha sakavika s. h., *prysłać u redakcyju paviedamleńnie ab zhodzie i voli być zakładčykam Biełaruskaha Sajuzu Kooperatyvaŭ.*

Luty 1934. *Redakcyja „SAMAPOMAČY".*

UVAHA! Pa ŭsiakija vyjaśnieńni ŭ spravie arhanizacyi Sajuzu Kooperatyvaŭ treba źviartacca ŭ redakcyju „Samapomačy". Na adkaz treba dałučyć paštovuju marku za 30 hrašoŭ.

---

# *Сельская гаспадарка.*

## Думайма аб сяўбе але не малпуйма!

Навука і падгляданьне спосабаў людзкога жыцьця, працы і гаспадаркі — рэч вельмі добрая, але сьляпое насьлядаваньне пазнанага — гэта бяздарнае і вельмі дарагое малпаваньне, якое ўканцы прыводзіць толькі да стратаў. Усьцерагчы прад гэткай абмылкай ня можа нават і друкаванае слова, калі яго пішуць чужыя людзі, бо і напісана яно для чужых. Беларускі ж земляроб павінен мець вернага дарадчыка ў сваей беларускай кніжцы ці газэце, пісанай для нашых-жа беларускіх варункаў...

Тыповым прыкладам сапраўднага „малпаваньня" ёсьць часта спатыканы ў нас спосаб шуканьня і выбару сяўбовага насеньня. Не аднаму здаецца, што калі напр. збажжы-

---

1844 h. z adumysłovaju metaju padniać śviedamaść nacyjanalnuju danskuju ŭ Šlezvigu ŭ suviazi z hiermanskim kulturnym naporam. Novaja placoŭka i paźniejšyja mieli šmat vorahaŭ i niaprychilnikaŭ. Zakidałasia im niažyćciovaść prahramy, małaja kankretnaść metaŭ i h. d. Chutka nastroi mianiajucca, dziakujučy miž inšym niaŭtomnaj enerhii druhoha, pobač z Grundtvig'am zasłužanaha pracaŭnika na henaj nivie L. Kristen Kolda. U 1914 h. narodnych universytetaŭ u Danii było 75, a kožny 3-ci hramadzianin dziaržavy mieŭ skončanuju vysokuju škołu hetkaha typu. Školy ŭsie byli pryvatnyja ŭ tym sensie, što skarb dziaržaŭny na samuju škołu hrošaŭ nie davaŭ, pamahaŭ tolki paasobnym słuchačom, kali tyja nia mieli hrošaŭ apłacić kursy.

Dyk skul takaja pieramiena adnosinaŭ da ŭniversytetu? Siańnia nichto nia sumniavajecca, što jość stulnaja zaležnaść, na't raŭnaležnaść, pamiž aśvietaju narodu i jahonym ahulnym roŭniem zamožnaści. Treba było prykładu Danii, kab vyšej pamianionaja praŭda była nam siańnia viadomaju. Na padstavie narodnych universytetaŭ u Danii vyrasła kooperacyja i dziakujučy pracy ŭ henych dvuch napramkach vyvaz masła z Danii z 7 miljonaŭ kilohramaŭ u 1881 h. vyras na 79 miljonaŭ u 1891 h., z 40 tysiač štuk žyvioły i 10 miljonaŭ klh. (kilohramaŭ) miasa — na 351 tysiaču štuk i 14 miljonaŭ klh. Ahulna — zaležnaść pamiž roŭniem aśviety i dachodaŭ z ziamli bačym z cyfraŭ (pierad vajnoju):

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Moravija | 49 karonaŭ | dachodu | z 1 | hektara, |
| Haliččyna | 18 | „ | „ | „ |
| Bukavina | 19 | „ | „ | „ |
| Dalmacyja | 9 | „ | „ | „ |

U Moravii było najmienš, a ŭ Dalmacyi — najbolš analfabetaŭ.

Jašče niekalki słoŭ ab praktyčnaj staranie pracy na Universytecie. Adzin kurs tryvaje ad 3—5 miesiacaŭ. Słuchačy žyvuć supolna, pracujuć ad 8—12 hadzinaŭ na dzień. Atmasfera sympatyi, ščyraści, vysoki nastroj, temy žyvyja, usim blizkija robiać toje, što pracoŭny dzień pieramieniajecca ŭ śviata. Tutaka praca — ŭžo nia prymus, a tvorčy akt, jaki z kožnym dniom vyjaŭlaje ŭsio novyja i novyja starony ŭ žyćciovym toku. Žyćcio nabiraje koleraŭ, irdzicca byccam kvietnica paśla letniaha ciopłaha daždžu. Niama što dzivicca, kali henych

на ці іншая якая расьціна буйна нейдзе вырасьце, дык мусіць таксама буйна расьці і ў нас. Не разумее пры гэтым, што само насеньне гэта йшчэ няма і паловы дадзеных да добрага ўраджаю, бо да гэтага патрэбны яшчэ: той клімат у якім расьціна „дома“ разьвівалася, тая глеба, дагляд, угнаеньне; калі-ж гэтага ня даць, дык найлепшая сяўба прападзе. Першым залежным ад чалавека варункам добрага ўраджаю ёсьць выбар глебы; далей —гэту глебу трэба асушыць, калі ў ёй за шмат вогкасьці, ачысьціць ад каменьняў і ўсякага пустазельля, добра вырабіць, пагнаіць і тады толькі абсяваць добрым сяўбовым зернем. Ніколі наадварот!

Але і ў гэтых выпадках, калі ўсе прыгатаваўчыя працы — глеба, выработаньне, угнаеньне—ужо зроблены і гаспадар на гэтулькі сільны, што можа сабе пазволіць на куплю добрага насеньня, дык і то найлепшым будзе насеньне ня тое, што дзесь там далёка прыносіць высокі ўраджай і дорага цэніцца, але тое, якое здольна расьці і даваць ўраджай у варунках ня лепшых ад нашых. Пазнаць гэта можна толькі на падставе пробных засеваў, робленых на мясцовых гэтак званых дасьледчых станцыях (пунктах). Гэткая станцыя для зах.-беларускіх земляў ёсьць у м. Беняконях (52 клм. на поўдзень ад Вільні). На падставе досьледаў ведзеных на гэтай станцыі і апублікаваных прафэсарам В. Ластоўскім, падаём ніжэй сарты яравых збажжынаў і бульбы, якія аказаліся найбольш прыгоднымі для нашых зах. беларускіх кліматычных і гаспадарчых варункаў.

**Авёс.** На глебах багатых з прыроды, старанна вырабленых і ўгноеных найлепшыя вынікі дае авёс Белы Арол з Свалёф (*Svalöf*). На глебах сярэдніх добра ўдаецца сорт Фіндлінг Бэнзінга; на слабейшыя глебы пры позным севе —Трыбанская Пасьпешка (*rychlik*), а на Ашмянскае Ўзвыжша — пасьпешка Казароўская.

Свалёф'скі авёс з гэктара ў Беняконях даў 26.6 q зярнят і 30.3 q (q=100 кілё) саломы. Асёс Фіндлінг расьце прыгожай аднабокай вяхой, мае цьвёрдую салому і надаецца як падтрымліваючая расьціна да мяшанак з гарохам, вікай і сачыўкай. Зярнё мае добра выпаўненае, жоўтае, сярэдняй вялікасьці; з гэктара ў Беняконях даў 23.8 q зярна і 30.1 q саломы. — Трыбанская пасьпешка дае драбнаватае, жоўтае, з далікатна-ценькай луской зерне. З гэктара ў Беняконях даў 23.1 q зярна і 30.3 q саломы — На вострыя кліматычныя варункі Ашмянскага ўзвышша прыгодны авёс—Пасьпешка Казароўская,— плодны, але дробны, шпількаваты; дае тавар нярыначны, але для корму даволі прыдатны.

**Ячмень.** Гэта расьціна ведамая як чатырохрадовая і двухрадовыя. Ячмяні чатырохрадовыя менш ставяць вымаганьняў як двухрадовыя. Гэтыя апошнія аднак, як сарты бравярняныя, могуць мець добры збыт, пры варунку аднак што будзе аднолькавым (зярно ў зярно) і калі зьбярэцца пасылка на цэлы вагон. Спасярод двухрадовых ячмянёў на асаблівую ўвагу заслугоўвае мараўскі ячмень Гана—Просковэц, які ў Б.—нях з гэктара даў 27.6 q зярна і 38.2 q саломы і родзіць нават на глебах лягчэйшых. На сільнейшыя глебы

---

paru miesiacaŭ astajucca najpryhažejšymi dziańkami ŭsim, chto łučyŭ u takuju hramadu słuchačoŭ.

Dziela aryjentacyi padam pradmiety na adnym z polskich kursaŭ Narodnaha Universytetu ŭ Šycach (pad Krakavam), dzie byŭ ja paru dzion niekalki hadoŭ tamu nazad. U praciahu tydnia była:

| | |
|---|---|
| historyja suśvietnaja i rodnaja | 8 h. |
| literatura rodnaja | 6 „ |
| pryroda | 3 „ |
| padarožy (jak asobny pradmiet) | 3 „ |
| hramadzkaja haspadarka | 2 „ |
| prablemy socyjalnyja | 2 „ |
| prablemy haspadarki na vioscy | 2 „ |
| narodnaja kultura | 1 „ |
| siamja | 1 „ |
| zdaroŭje | 1 „ |
| kooperacyja | 1 „ |
| hazety (značycca, jak čytać, čaho šukać, jakimi hazetami cikavicca i h. d.) | 1 „ |
| himnastyka | 6 „ |
| referaty (spaściarohi z žyćcia kursu, z žyćcia vioski i h. d.) | 2 „ |
| śpieŭ | 4 „ |

Bačym, što pradmiety na't krychu inakšyja, čymsia tyja, da jakich my pryvykli ŭ školach. U prahramie niama asobnaha miesca na teatr, choć jon adyhryvaje ahramadnuju rol, jak sposab aśviety. Ihrajuć słuchačy časta, choć i teatr tamaka krychu inakšy, čymsia pradstaŭleńnie na vioscy. Tamaka ihrajuć usie, usie źjaŭlajucca adnačasna aŭtorami. Prykładam—inscenizujuć (adyhryvajuć) takuju temu: „jak sarhanizavacimu ŭ svajej vioscy spažyvieckuju kooperatyvu ci niešta takoje.“

U našych biełaruskich umovach i Kooperacyja i Narodnyja Universytety mohuć i pavinny mieć susim asobnaje stanovišča. Dahetul my nia majem sobskaje, rodnaje školy, dyk nielha nam nia vykarystać kožnaje mahčymaści aśvietnaje pracy zaškolnaje ŭ kožnaj formie — biblijateki, čytalni, narodnyja damy, kursy karespandencyjnyja (zavočnyja), — treba adnak pomnić, što Narodny Universytet, jak nivodnaja inšaja ŭstanova, pamahaje ŭzhadavać kadry najlepšych pracaŭnikoŭ kulturna-aśvietnych i hramadzkich na vioscy. Henyja-ž kadry voźmuć u ruki i pracu kooperatyŭnuju.

**Dr. S. Hrynkievič.**

на першыя мясцы выбіваецца двухрадовы ячмень Бавары я Аккермана.

Спаміж чатырохрадовых ячмянёў на добрых грунтох найлепш родзіць ячмень Мархійскі (з гэктара 23.8 q зярна і 24.6 q саломы).

**Пшаніца—ярыца**. Найлепшыя вынікі ў Беняконях дала Вусатка Гільдэбрандта (*Ostka*): 24.0 q зярна і 35.9 q саломы. Паводле дадзеных з мясцовых першарадных млыноў, якасьць пшаніцы—ярыцы як млынарскага тавару--сусім здавальняючыя.

**Бульба** — гэта расьціна грунт оўперавважна лёгкіх, пульхных, правеўных. Грунты гліняста-гляістыя, зімныя, таксама як і сухія, глыбока-пяшчаныя, пад бульбу няпрыгодныя. Паводле якасьці грунтоў трэба выбіраць і сорт бульбы.

Добрыя сарты сталовай бульбы ня ўродзяць ані на сыпучых пясках, ані на цяжкім гляі. На лёгкіх пяшчаных глебах родзіць *Дэодара, Блюхер.* На грунтох пяшчаных, але не на сухіх, глыбокіх пясках, могуць добра родзіць *Індустрыя, Пэпо, Эльля* і *Альма* На грунтох вязкіх, глінястых можна садзіць толькі бульбу *Вольтман, Гаўранак* і *Парнасія*: яны лёгка перахоўваюцца і не падлягаюць лёгка розным хваробам; сюды-ж залічаюць сарты: *Гіндэнбург, Картц фон Камэнке* і *Пэпо.* — Каб мець аднак большую пэўнасьць ураджаю, трэба кожны год садзіць у гаспадарцы па 2—3 сарты бульбы: паміж імі павінны быць абавязкава тыя, што вогкасьць любяць і тыя, што яе ня церпяць.

Дальшай прыметай да падзелу сартоў бульбы ёсьць раньняя ці позная пара ейнага дасьпяваньня і празначэньне да спажыцьця ці то пры стале, ці ўрэшце на пераробку ў браварох, крахмальнях, сушарнях і г. д.

Бульба раньняя. Да раньняга прарастаньня і саджэньня найбольш прыгодны: белая *Цэсарская Карона* і *Ружоўка* (Early—Rose). Смакам крыху горшая, але затое больш плодная ёсьць сьветла-лупінная раньняя галяндзкая бульба *Эрстлінген.*

Бульба сярэдне-позная і позная. Сюды перадусім належыць бледаружовая з плыткімі вочкамі *Альма* і чырвоналупінная *Картц фон Камэнке.* Крыху горшыя на смак: *Блюхер* і вялікая *Бэльлядонна.*

Сарты бульбы кармовай, гэта такія, што даюць найбольшы ўраджай і добра перахоўваюцца. Сюды залічаюцца *Гіэвіюс, Індустрыя, Гелькарагіс, Дэодара, Гаўранак, Блюхер, Сілевія, Гэльлена,* *Парнасія* і *Сьвіцевъ.*

Да фабрычнай пераробкі прыгодны: багатая на крахмал *Вольтман'ка*, пасьля — *Гаўранак* і *Блюхер*, а так-жа *Гюттэн* і *Парнасія.*

Помніць урэшце трэба, што сяўбу збожжа, а тымбольш бульбы трэба часта абнаўляць. Гэтак званае *арыгінальнае* насеньне са праўды бывае часта дарагім і ня кожнаму даступным. Але другі-трэці адсеў і цаной блізу кожнаму даступны і вынікі дасьць добрыя, калі толькі адпаведна прыгатаваны быў грунт і ня спозьнена сяўба. — Найгорш аднак робіць той, хто купляе далёкія чужыя сарты насеньня, непацікавіўшыся наперад: чаго ён вымагае як ад прыроды, так і ад гаспадара: гэткі гаспадар лепш зробе, калі замест купляць незнаёмыя і далёкія сарты насеньня, купіць іх ад знаёмага суседа.

*А. К.*

# Аб гадоўлі курэй.

Гадоўля курэй заўсяды аплаціцца, калі гаспадыня будзе іх лепей даглядаць ды завядзе пароды курэй адпавядаючыя нашым патрэбам і клімату. Вось некалькі правілаў гадавальніцам курэй:

1. Цісканы авёс ёсьць вельмі добрым кормам для куранятаў.
2. Адпадкі варыва найляпей выкарыстаем, калі даём іх курам. Добра выкарыстаюць куры і сьціданае малако і масьлянку.
3. Спабудзьце (вызбыйцеся) загадзя благіх і ненясушчых курэй, каб яны ўзімку вас не аб'ядалі.
4. Найцяжшыя пятухі й курыцы ня годзяцца на племя.
5. Часамі старое лепшае за новае, але гэтага ня можна сказаць аб курах.
6. Не пашкодзіць зьнюшок (крыха) солі ў мяккай штодзеннай ядзе.
7. Даваньне пакрысе канапляных або лянных жмакоў прысьпяшае лінаньне, памагае траўленьню і дае пер'ю харошы блеск.
8. Канюшыннае і люцэрнавае сена, добра зрэзанае і запаранае гарачай вадой, да каторага прыдасца йшчэ вотрубаў і груба зьмеленага збожжа (гэтак званага шроту) надта добра даваць узімку курыцам, што пачынаюць несьціся.
9. Добрым кормам на дзяўбаньне курам узімку ёсьць жалуды.
10. Ня можна маладых куранят карміць з аднаго карытца з старымі курмі.
11. Курыцы, што да м ца сьнежня (XII) ня вылінялі, мала зьнясуць яец узімку; чым хутчэй вылінаюць, тым раней пачнуць несьціся.
12. Лішне вялікая гарачыня, як і сьцюжа ня спрыяюць карыснасьці курэй.
13. Пад квактуху (куравoдку) ня можна класьці яец з лупінай грубой, бруднай або ўкропкі.
14. Залатая курачка тая, што нясецца ў пару, калі яйкі найдаражэйшыя.
15. Абкормлеваныя куры шмат яец не зьнясуць.
16. Разам з курамі ня можна дзяржаць у куратніку качак і гусей.
17. Толькі сьпелыя куры маюць харошыя куранята.
18. Ніколі ня мыйце яец цёплай вадою, бо ад гэтага псуецца іхняя якасьць.

19. Як толькі курыныя грабяні робяцца бледа-чырвонымі, можна борзда ў іх спадзявацца хваробы. Дык увага!

20. Запсаванае мяса — нясмачнае і некарыснае і курам.

21. Хто мае ў куратніку шмат шкляных вакон, паможа гэтым курам і сабе. Палавіну вакон можна заляпіць алейнай паперай.

22. Лупіны яец даваць трэба курам тады, калі яны патрабуюць вапны на яйкі.

23. На племя трэба выбраць куры найлепшыя і найздаравейшыя.

24. Квактуха звычайна можа добра абсесьці толькі 10—12 яец.

25. Ня можна дапускаць, каб куры сьмяглі.

26. Чым балей памёту (гною) ў куратніку, тым балей курынных блохаў.

27. Дасьпяваючыя курачкі трэба бараніць ад пятухоў, бо ня добра разаўюцца, скарамжацеюць.

28. У перапоўненым куратніку куры ноччу распарацца, а рана нараніцы на роснай траве вельмі лёгка празябнуць.

29. Чысьцячы куратнік і курасаднік, ня можна ўжываць вельмі пахнючых сродкаў, бо сьвежыя яйкі ў гнязьдзе гэткі пах убіраюць і якасьць іх ад гэтага горшае.

30. Пры борздым укармліваньню куранятаў і іншых птушак радзяць мяшаць: кубак ячнае мукі, 2 кубкі вотрубаў, крышку солі і гэтулькі малака, каб цеста было тугое; пячэцца гэтае цеста да гнеда на бляшаных брытванох або на сквародах.

31. Кацелкавыя (сонечнікавыя) зярняты вельмі добрая яда курам, асабліва ў зімовыя месяцы; самую кацелку (сонечнікавую шапку) або качан капусты трэба павесіць на вышыні 30 см. (сантымэтраў), каб куры мусілі да іх падскокаваць. Гэтак яны ўграваюцца і лепей пераносяць зіму.

32. Вельмі танны корм курам улетку можна прыгатаваць гэтак: на непатрэбным месцы выкапаць 30 ямкаў, кожная па 30 см удаўжкі, ушыркі і ўглыбкі. У кожную ямку насыпаць да вышыні 20 см рэзанай саломы, на салому насыпаць адпадкаў варыва, пакрыць глінай і прыкрыць плоскім камянём. Кожная ямка павінна мець лічбу. За месяц у кожнай ямцы будзе поўна дожджавых чарвей, так што адну ямку можна кожны дзень скарміць, а як прыйдзеш да апошняй, дык першая йзноў будзе поўная чарвей. Гэта разумнае кармленьне нічога — акрамя крыхі працы і ўвагі — не каштуе.

33. Пры масавай (вялікай) гадоўлі курэй вельмі часта здараюцца ў іх і заразьлівыя хваробы. Дзеля таго трэба зімовыя (замкнёныя) куратнікі часта чысьціць ад памёту, і бяліць вапнай. Куратнікі летнія — загарадкі на вольным паветры — час-ад-часу перакопываюцца або і пераворываюцца; дзень перад гэтым зямля ў гэткім куратніку пасыпаецца паленай (нягашанай) вапнай. Курыныя загарадкі паросшыя травою не перакопываюцца, а толькі спырсківаюцца растворам сіняга каменя ($CuSO_4$) і серкавае кісьлі ($H_2SO_4$): поўкілёграма сіняга каменя распускаецца ў 9 літрах вару, а да гэтага а с ь ц я р о ж н а (увага!) дадаецца 2 грамы серк. кісьлі. Распырскаваецца гэты раствор з палівачкі. Куры пасьле гэтага можна пускаць у загарадку толькі на другі дзень.

*Фр. Шэфр.*

**Ад рэдакцыі.** Да гэтых парадаў узятых з жыцьця трэба дадаць яшчэ тую праўду, што курыца-марцоўка звычайна бывае найлепшай: найхутчэй дасьпявае і найраней пачынае нясьціся. Да раньняга (ужо ў м-цы сакавіку, ад чаго і кураняты называюцца „марцоўкамі“) сяджэньня найлягчэй прывучыць індычку, але выседжаных ужо куранят найлепш водзіць каплун (выкастраваны пятух).

# Гадуйце памідоры!

Штораз часьцей чуваць галасы за тым, каб людзі больш спажывалі г а р о д н і н ы і садовіны. Першабытнасьць нашых вясковых асабліва гародаў мала вабіла да сваіх пладоў, выбар каторых да нядаўна ў нас быў вельмі малы: крыха цыбулі, бацьвіньня, горкай рэдзькі і ўсё! Толькі апошнім часам і пад уплывам прыгарадзкіх плянтацый даецца заўважыць спачатку нясьмелае, а пасьля штораз большае зацікаўленьне гародам і сартамі рознай, усьцяж новай гародніны. Да ліку гэтай „новай“ вельмі пажыўнай гародніны належаць перадусім п а м і д о р ы.

Памідор (*solanum lycopersicum*) у сьпелым стане гэта мяккі як сьліўка, але бяскостны чырвоны, сакавіты плод, вялічынёй з яйко, формай аднак ня круглы, а крыху сплюшчаны зьверху ўніз. На смак — для няпрывыкшага — зразу паказваецца мляўкім, але хто раз пазнаў яго, той цяжка ад яго адвыкае. Ужываньне памідору даволі шырокае — як у сьвежым так і ў марынаваным стане. Ядуць памідор проста з градкі, асабліва пасыпаўшы яго крышку соляй; добрую прыправу дае памідор парэзаны на лісткі і перасыпаны сольлю, перцам, а хто любіць— і з цыбуляю. Вельмі смачныя і памідоравыя зупы.

Ды ўрэшце ўсіх спосабаў зужыцьця памідораў трудна пералічыць. На сягоньня досыць сказаць, што застасаваньне памідору ў ядзе вельмі шырокае і здаровае. Аб гэтым больш напішам увосені, калі памідор да-

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

сьпее. Цяпер-жа, хоць коратка, пазнгёмімся з спосабам гадаваньня памідораў.

Першай работай пры гадаваньні памідораў ёсьць прыгатаваньне флянсаў. Дзе хто можа ўздабыцца на хатні інспэкт, высявае тады пад канец лютага і ў пачатку сакавіка насеньне памідораў. Калі добра абойдуць, то перасаджываюцца ў другі, больш халаднейшы інспэкт, але тады трэба садзіць у рад, з одступамі 5—8 см.(сантымэтраў). Гэтак растуць флянсы, пакуль не дасягнуць вышыні 30—40 ст. і больш, калі ўжо можна будзе высаджываць іх на грунт.

Хто дамовым спосабам збудаванага інспэкту ня мае (аб гэтым напішам у наступным нумары), той няхай высее насеньне, купленае хоць і даражэй, але ў добра ведамай фірме, у скрынку запоўненую добрай агароднай зямлёй. Абышоўшыя флянсы перасаджваюцца ў рассаднік у радкі, каліўца ад каліўца адлежнасьць 5—8 сантымэтраў. З рассадніка флянс высаджваецца ўжо на градку.

Месца для памідораў выбіраць трэба цёплае, найлепей на поўдзень і па меры магчымасьці заслоненае ад поўначы будынкам, асабліва — белым мурам. Грунт павінен быць добра прыгатаваны, угноены конскім гноем год перад высаджываньнем.

Калі ўжо месца прыгатавана, тады трэба значнікам*) павызначываць лініі, на якіх убіваюцца калкі, вышынёй адзін аж паўтара мэтра, пры каторых капаюцца ямкі, у якія пасьля і садзяцца флянсы памідораў. Адлегласьці каліва ад каліва ў кожны бок павінны быць 80 стм.

На гэтак прыгатаванае месца высаджваюцца флянсы ў палове мая і ў пачатку чэрвеня. Перад выбраньнем флянсаў з інспэктаў (ці з рассадніка), трэба перш звільжыць іх, каб пры карэньнях асталося крыху пяску. Выбіраючы флянсы на насеньне трэба зварочваць увагу, каб добра былі разьвітыя: вышыня каб дасягала 30 стм., сьцябло— грубіні алавіка, карэньне—добра разьвітае. Перад саджэньнем флянсу трэба абрэзаць бочныя галінкі, а пасадзіўшы — прывязаць да калка, які быў да гэтага прызначаны раней.

Дзеля таго, што пры спрыяючых варунках памідоры растуць вельмі хутка, то праз 2—3 тыдні трэба ізноў дагледзіць: паказываючыяся бочныя галінкі абцяць, а вярхушку памідора прывязаць да калка. Калі пачне паказывацца трава, то трэба апалоць, часта матыкаваць, а калі слаба разьвіваюцца, то даць крыху гною.

Калі хто думае садзіць памідоры у большым ліку, то каб не марнаваць месца, можна садзіць паміж памідорамі раньнія адмены гародніны, як нпр. раньнюю капусту, радысу і т. п.

Пры добрай і стараннай управе памідоры могуць даць плады ужо ў другой палове жніўня і ў першай—верасьня.

*) значнік гэта вялікія граблі з рэдкімі зубамі

Каб прысьпяшыць дасьпяваньне памідораў, трэба іх, як толькі пачнуць зьмяняць колер з цёмна-зялёнага на сьветла-жоўты, сарваць і палажыць у цёплае і цёмнае месца. Калі-ж хто захоча, каб памідоры дасьпелі хутчэй на пні, то трэба трохі прарадзіць лісьце, каб даць больш сьвятла. У палове жніўня трэба зрэзаць вярхушкі памідораў, каб перарваць далейшы ўзрост у вышыню.

На насеньне трэба выбіраць памідоры вялікія, гладкія і найранейшай адмены. З добра высьпеленых памідораў выбіраецца мязга, кладзецца на сіты і абліваецца вадой, каб выбраць насеньне, пасьля раскладаецца ценькім пластом і вольна сушыцца.

Памідоры падлягаюць хваробе г. зв. бульбяной заразе (Phytophtora infentans). Пры гэтай хваробе на лістох, сьцяблох, а такжа на фруктах зьяўляюцца брунатныя плямы, каторыя азначаюць пачатак гніцьця. Найбольш спрыяючымі варункамі для гэтай хваробы ёсьць вільгаць і сьцюжа. Дзеля гэтага, каб усьцерагчы памідоры ад гэтай хваробы, трэба выбіраць ім месца цёплае і прапушчальную, добра награваючуюся глебу. Калі-ж гэта хвароба ўжо зьвіцца ў памідораў, то трэба спырскаць расьліну 1 проц. бардоскай цечай. Спосаб прыгатаўленьня гэтай цечы наступны:

1 кілё копэрвасу медзі ($CuSO_4$) распушчаецца у 10 літрах вады; пасьля 1 кг. гашанай вапны распушчаецца у 10 літрах вады. Усёгэта мяшаецца і ўліваецца ў 80 літр. вады.

Цечу гэту трэба разводзіць у начыньнях каменным, або дзераўляным, бо мэталёвыя разьядаюцца.

**Г. Ш.**

# Наша пошта.

Праф. М. Вершынiну ў Празе Чэскай— атрымалі, дзякуем, зьмесьцім, просім не забываць.

К. Матусэвічу ў Бурачкох — атрымалі, дзякуем, пры магчымасьці выкарыстаем. Бяда цісьне ўсіх—нас таксама, але „бяда — матка коопэрацыі." Падумайце аб зборы камплекту, або прынамся паловы (5 штук): інакш змушаны будзем спыніць.

Гарэлік Уладз. у Баранцах — прошанае выслалі. Чарга цяпер за Вамі. Коопэрацыю ня збудуеце хіба аднак за ноч. На гэта патрэбна прыгатаваньне і ўсьведамленьне. Вялікую ў гэтым помач можа аддаць Вам „Самапомач."

Даўгапол М. На жаль, верш Ваш аказаўся за слабы. Ці ня лепш Вам узяцца за конкрэтную коопэратыўную працу, хоць-бы сыстэматычна чытаючы „Самапомач," а паводле магчымасьці і запісваючыся на „Завочны Курс Коопэрацыі"? Думаем, што так.

Каса Стэфчыка ў Жойдзішках—просьба споўнена: атрымалі?

Вярбіла Максім у Вольцы: Вам высланы 12 лекцыяў нашага Курсу Коопэрацыі: атрымалі? Дальшая высылка наступіць толькі пасьля таго, як аплаціце дальшую рату за раз (11 зл.), або ў расстрочку (16 зл.).

Усім удзельнікам Зав. Курсу Коопэрацыі; усім, хто аплацілі толькі першую рату, высылка дальшых лекцыяў стрымана да часу аплаты дальшай раты.

— Курыловічу Ан. і Міруку Уласу: — "Самапомач" будзем пасылаць. Дапоўнеце падпіску.

